Przesyłka opłacona ryczałtem

Nr 1 (97) | Пятніца, 1-га Студня 1926 г. м. Вільня | Год III

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. | Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
„ „ „ 3 „ 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno; ul. Niemiecka 1 „Hotel Sokołowskiego“ pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11 — 1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стр. —20 гр.
за радок нонпарэля у тэксьце – 25 гр.
на апош. стр.—15 гр.

# Усіх нашых чытачоў віншуем з Новым Годам!

## Навагоднія жаданьні.

Як ідзе Новы Год, на ўсім сьвеце народ
Да жычэньня сабе штосьці мае;
Дык і ты, як усе, спаткай году прыход,
Беларусаў сямейка худая.

Кожны год, што мінаў, штосьці нам не дадаў,
Аж сабраўся так доўг не маленькі.
Хай жа Новы наш Год, што прыйшоў, завітаў
Зьверне ўсё нам, як ёсьць, да капейкі!

Хай ня будзе круцель, дасьць нам просьценькі цэль
К лепшай долі, і волі, і славе;
Мы ня знялі жыцьця, ні вясёлых нядзель,
Хай Год Новы ўсё гэта паправе!

Сваркі, звадкі ня раз былі згубай для нас,
Разлучалі са шчасьцем, з свабодай..
Хай-жа з Новым годам новы бліжыцца час,
Брацтва, роўнасьць, супольнасьць і згода.

Во жычэньні ўсе, Новы Год, да цябе;
Іх ня вельмі і многа, здаецца.
Так і песьня пяе, так, людцы вы мае,
Знаю, ў думках усім вам снуецца.

*ЯНКА КУПАЛА.*



## СЯЛЯНЕ і БАЛЬШАВІКІ.

Гэтымі днямі ў Маскве адбылася 14 конфэрэнцыя комуністычнай партыі.

Характэрных мамэнтаў на гэтай конфэрэнцыі было два:

Перш на перш, зусім выразна абазначыўся даўно ўжо насьпеўшы раскол у самых вярхах комуністычнай партыі. Па другое: на конфэрэнцыі панаваў безпрытомны, страх перад грознай небясьпекай, якая пагражае комуністычнай уладзе з боку сялянства.

Раскол ком. партыі сконкрэтызаваўся ў выступленьні групы „прававерных“ петраградцаў, г. зв. „чыстых“ комуністаў, на чале з вядомым Зіноўевым-Апфэльбаўмам, проці рэшты сябраў Паліт. Бюро. Гэты лаўкач і міжнародны жулік абвінавачваў Цэнтральны Камітэт Партыі ў адхіленьні ад ідэі „чыстага“ комунізму і ў запамятаваньні „заветаў ільіча“. На абарону Паліт.-Быро выступілі Каменяў-Нахамкес і Сталін—Джугашвілі, якія з свайго боку абвінавачвалі главу комінтэрна ў „ерэсі“. Гэтак-жа сама не пагадзілася апазыцыя з Ц. К. партыі і па кардынальнаму і надта балючаму пытаньню—у справе адносінаў комуністычнай партыі да сялянства. Па пытаньню аб адносінах самаго сялянства да комуністычнай партыі разбежнасьцяў ня было, .. бо факт актыўнай і стыхійнай ненавісьці сялянства да ком. партыі для ўсіх быў аж занадта ясны. І вось гэтай, за выбачэньнем, „работніцка-*сялянскай* уладзе“ прыйшлося публічна напружваць усе свае мазгі, каб знайсьці способы, *як бараніцца ад сялянства, якое грознай хваляй падыймаецца на комуністаў.* Грышка Зіноўеў, з звычайным для яго цынізмам, паставіў точку над і, і радзіў проста абвясьціць вайну контрэвалюцыйнаму сялянству (г. зн. 85 прац. усяго насяленьня!), абапёршыся цалком і выключна на работніцкай масе. Дзеля гэтага ён прапанаваў павялічыць лік комуністычнай партыі на 50 прац. выключна работнікамі, каб пры іх дапамозе трымаць мацней у няволі сялянства. Аднак-жа яго прапазыцыя ня была прынята. Баючыся нават закрануць пытаньне па самай сутнасьці — *аб прычынах ненавісьці сялянства да комуністычнай партыі,* конфэрэнцыя глуха пастанавіла: устанавіць адносіны да сялянства ў залежнасьці ад падзелу яго на тры катэгорыі. Першай катэгорыі—„кулакам“ ізноў аб'яўляна бязлітасная вайна, ня гледзячы на тое, што яшчэ зусім нядаўна гэты самы „кулак“ карыстаўся вялікай пашанай з боку савецкай улады. У гэтай вайне з „кулакамі“ конфэрэнцыя пастанавіла „абапёрціся“ на другую катэгорыю сялянства-бедняка. А што тычыцца найбольш лічэбнай катэгорыі сялянства—сярэдняка, які знаходзіцца пад вялікім уплывам „кулака“ (бо толькі і сьніць, каб самому зрабіцца заможным!), дык пастаноўлена „зрабіць з ім саюз“(?!). Але, *якім чынам* гэты саюз можа быць зроблены, і ці згодзіцца другая старана — селянін сярэдняк на гэты саюз, аб гэтым мовы ня было. Ясна адно: перад сялянскай небясьпекай, якая пагражае самаму існаваньню савецкай улады, комуністаў абхапіў вялікі страх. У гэтым і крыецца прычына крызісу ў самых вярхох партыі. Правадыры партыі са страху шукаюць ратунку і кожны прапануе дзеля гэтага свой спосаб, аднолькова няпэўны. Кожны з іх, сваім зладзейскім інстынктам, чуе сьмярцельную небясьпеку. Але, замест таго, каб аб'еднацца перад гэтай страшэннай небясьпекай, яны — па няўхільнаму закону лёгікі — пачалі душыць адзін аднаго. Гэтак бывае заўсёды калі тоне карабель: гінучыя хапаюцца за малыя дошкі, добра разумеючы, што гэта іх не ўратуе, і топяць адзін аднаго. Гэтак сама нішто ўжо не ўратуе і комуністаў! Сяляне, у свой час, як жаўнеры, ці як партызаны на тылах арміяў Дэнікіна і Калчака, паграшылі тым, што падтрымалі бальшавіцкую ўладу. І гэтае-ж самае, ашуканае бальшавікамі сялянства, гэты грэх свой пакрые, і першы сьмяртельны ўдар, які будзе нанесяны бальшавіцкай уладзе, — нанясе сялянства. І ніякія „стратэгічныя манеўры“ па рэцэпту Леніна, ніякія „тварам да вёскі“, ніякія стаўкі на бедняка, а тым больш стаўка выключна на работніка, ці на новае сялянства—жыдоўскае, не ўратуе ўжо ком. партыі ад пагібелі.

Аднак-жа, ня трэба і пераацэніваць значэньня, запраўды надта прыемных, рэзультатаў 14 й конфэрэнцыі: Нельга думаць, што комуністычная партыя зараз-жа пасьля гэтага загіне. І дзеля гэтага ня можна чакаць пакуль само сялянства, даведзенае да роспачы, ня гледзячы на шпіёнства селькораў і страшэнны тэррор, —стыхійна паўстане проці ненавіснай улады. Трэба сялянству дапамагчы ў гэтым! Трэба зрабіць усё, каб скараціць час панаваньня бальшавіцкай улады. І мы бачым, што ў нас, на Беларусі, гэткія спробы ўжо маюць мейсца!.. Так гэтымі днямі ў газэтах зьявілася вестка аб спробе новага паўстаньня проці комуністаў на Беларусі. На чале гэтага паўстаньня стаяў б. слуцкі паўстанец Лістапад—вясковы вучыцель. Няхай Лістапада арыштавалі, але за ім пойдуць дзесяткі іншых Лістападаў — гэткіх-жа самых вясковых інтэлігэнтаў.

Беларускія інтэлігэнты, якія зьяўляюцца праўдзівымі сынамі нашага сялянства, не здрадзяць свайго народу і ў цяжкую хвіліну рашучай барацьбы з аслабеўшай ужо гадзінай —комуністычнай партыяй, яны будуць разам з сялянствам і дапамогуць яму перамагчы.

---

Беларусы Віленскага Ашмянскага і Сьвянцянскага паветаў!

Паміж 1 і 4 студня ў вашых паветах адбудзецца сьпіс насяленьня. Сьпіс гэты мае вялікае значэньне для нас беларусаў, бо ён пакажа колькі нас ёсьць, а разам з гэтым і нашую сілу.

І вось, калі вас будуць пытацца аб тым, да якой народнасьці сябе залічаеце, дык, усе як адзін, адказывайце, што вы **БЕЛАРУСЫ** і жадайце, каб гэтак і была запісана ў формуляры!

---

## Палітычны агляд.

Звычайна пад Новы Год падводзяцца агулы старага і выказваюцца пагляды і пажаданьні на новы год. Глянем і мы на прайшоўшы год.

Леташні год адзначыўся цэлым радам буйных палітычных падзеяў, у цэнтры якіх стаіць Эўропа. На першым пляне бязумоўна трэба паставіць лёкарнскі пакт бясьпекі, над якім заходня эўропэйскія дзяржавы працавалі ў працягу цэлага года. Лёкарна зьяўляецца паваротным пунктам у гісторыі пасьляваеннай Эўропы, першым яе крокам дзеля абароны

# Ізноў паўстаньне на Случчыне.

Савецкія газэты падаюць сэнсацыйную вестку аб тым, што Менскае Г.П.У. выкрыла новую паўстанчую беларускую арганізацыю, цэнтрамі якой былі Менск і Слуцак. Арганізацыя гэта была пастаўлена вельмі шырока і мела на мэце — *скінуць бальшавіцкую ўладу і абвясьціць Незалежную Беларускую Рэспубліку*. Газэта „Młot“ у № 280 піша, што на чале гэтай арганізацыі стаяў б. слуцкі паўстанец і, сябра Рады Случчыны — настаўнік Ю. Лістапад. Да арганізацыі належала шмат вучыцялёў і школьнай моладзі ў Менску і Слуцку. Апроч Лістапада арыштаваны: М. Дэмідовіч, Н. Мяцельскі, М. Макарэня, М. Казак, Т. Курбыка і П. Дубоўскі. Усіх іх будзе судзіць ваенны суд.

Справа была пастаўлена гэтак добра, што арганізацыя мела, нават, свой уласны орган „Нашае Слова“, які выходзіў нелягальна ў Слуцку. Бальшавіцкія газэты падаюць цікавыя адрыўкі з некатарых артыкулаў гэтай газэты. Вось як пісала гэта праўдзіва беларуская, сялянская газэта:

„*Бальшавікі забіраюць наш* хлеб і ім кормяць Расію. Досыць ужо зьдзекаў! Будзем будаваць сваю ўласную дзяржаву — Беларусь. Паўстаньжа народ!

Савецкая ўлада падбурала суседа на суседа, брата на брата Яна хацела зрабіць так, каб мы ня верылі адзін аднаму і ня паўсталі проці бальшавіцкай улады. Сяляне, кіньце сваркі! Вашым ворагам ёсьць ня ваш сусед, *а толькі бальшавік*. Сяляне досыць спаць! Ужо час прабудзіцца! *Досыць ужо жыды паезьдзілі па вашаму карку.* Будуйце сваю ўласную хату. Арганізуйце сваю ўладу, а ня жыдоўскую. Барацьба з бальшавікамі мірнымі спосабамі немагчыма, дзеля гэтага патрэбны *толькі акты тэрорыстычныя* Партызанскія аддзелы споўняць свой абавязак. Яны пакараюць жыдоў, партыйцаў і іншых ворагаў нашай Бацькаўшчыны“.

Відаць, што арганізацыя гэтая была чыста дэмакратычная, бо нават і бальшавіцкія газэты не называюць яе „белагвардзейскай“, а наадварот прызнаюць, што яна мела характар чыста нацыянальны — беларускі.

Факт паўстаньня на Беларусі гэткай вялікай народнай арганізацыі лепш за ўсё паказвае, як „добра“ жывецца беларусам пад уладай бальшавікоў і якая нацыянальная праца магчыма „там“, куды гэтак старанна запрашаюць вяртацца віленскія бальшавіцкія падгалоскі, выдаваныя кіраўніком тутэйшага „Мопра“ п Луцкевічам.

Шчыра вітаем паўстанцаў-случакоў. Мы верым, што іх ахвяры не прападуць дарэмна. На зьмену ім прыдуць новыя барацьбіты, якія скінуць нарэшце агідную бальшавіцкую ўладу.

---

шырэньнем на ўвесь Бліжэйшы Ўсход і паўночную Афрыку.

Паўстаў паважны конфлікт паміж Англіяй і Турцыяй. Рада Лігі Народаў, як і трэ' было спадзявацца, вырашыла Мосульскае пытаньне на карысьць Англіі. Турцыя катэгарычна адмовілася прызнаць гэтую пастанову Лігі Народаў і пагражае аружнай сілай адабраць ад Англіі Мосул. З таго і другога боку робіцца ваенная падгатоўка і ў кожны мамэнт можа распачацца паміж імі вайна.

Гэтак сама, і на Далёкім Усходзе паўстаў конфлікт, які павінен вырашыцца ў новым годзе. Часовая перамога бальшавіцкага гэн. Фэнга, якога падтрымлівае С.С.Р.Р. і цяжкае палажэньне гэн. Чанг-Тсо Ліна, якому памагае Японія, выклікалі выступленьне апошняй. Японскія аружныя сілы ўжо занялі цэнтр Манджурыі — Мукдэн. Апроч таго, у сучасны мамэнт вядуцца перагаворы паміж Англіяй, Японіяй і Амэрыкай па пытаньню аб сумесным аружным выступленьні ў Кітаі. Але магчыма, што да гэтага ня дойдзе, бо і адна Японія можа справіцца, калі гэта будзе патрэбна. Ужо атрыманы весткі, што гэн. Фэнг пацярпеў няўдачу і адыходзіць з Манджурыі. Няўдача бальшавіцкіх прыхільнікаў у Кітаі, зьяўляецца адначасна няўдачай усей азіацкай палітыкі С. С. Р. Р. і пачаткам канца бальшавікоў. Бальшавікі пратэстуюць проці заняцьця Мукдэну і заяўляюць, што Японія на падставе Портсмутскага дагавора ад 1905 года, які прызнаны і бальшавікамі, ня мае права ўводзіць у Мукдэн больш 15,000 войска, але японцы зусім ня лічацца з пратэстамі бальшавікоў. На выпадак магчымага конфлікту з бальшавікамі японцы маюць у Манджурыі і Карэі каля 300,000 войска. Але да гэтага відаць, ня дойдзе, бо і самі бальшавікі добра разумеюць, што аружны конфлікт з Японіяй можа скончыцца для іх вельмі кепска У кожным выпадку трэба спадзевацца, што ў новым годзе кітайскі конфлікт будзе нарэшце зьліквідаваны. У гэтым заінтэрасаваны Японія, Англія і Амэрыка і ад гэтага залежыць разьвязка агульна-эўрапэйскага эканамічнага крызіса.

Бальшавікі разумеюць, што паразуменьне і аб'еднаньне эўрапэйскіх дзяржаваў пагражае ім вялікай небясьпекай Гэтым страхам перад аб'еднаньнем і тлумачыцца апошні выязд Чычэрына ў Зах. Эўропу. Спачатку ён хацеў пашкодзіць лёкарнскай конфэрэнцыі і не дапусьціць да згоды паміж саюзьнікамі і Нямеччынай. А калі гэтае ня ўдалася, дык ён паехаў у Францыю, дзе ўвесь час стараўся пасеяць нязгоду паміж Англіяй і Францыяй. Нарэшце Чычэрын дабіваўся спатканьня з ангельскім міністрам Чэмбярленам, але і гэта яму ня удалася. Ангельскі міністар Чэрчыль у сваёй прамове ў парлямэнце, заявіў, што ня можа быць ніякага паразуменьня з „бандай маскоўскіх інтэрнацыяналістаў“. Пасьля гэтага Чычэрыну нічога больш не заставалася рабіць, як павярнуць аглоблі і вярнуцца ў Маскву. На гэты раз нездаволены сваей паездкай у Парыж, Чычэрын паехаў у Расею не праз Варшаву, дзе яго так добра прыймалі, але праз Коўну. Гэтым ён зрабіў няпрыемнасьць для Варшавы, якая ўжо пачынае разчароўвацца у бальшавіцкай „прыязьні“. У часе свайго нядаўняга пабыту ў Варшаве, пад уплывам выпітага шампанскага, Чычэрын запэўняў, што бальшавіцка-польскія гандлёвыя зносіны — зусім зьліквідуюць эканамічны крызіс у Польшчы і што ўсе лодзінскія мануфактурныя тавары знойдуць збыт на расейскім рынку. А цяпер бальшавікі зусім адмовіліся купляць лодзінскія тавары, бо па-першае — яны ня маюць дзеля гэтага патрэбных капіталаў, а па другое, дзеля таго, што пагадзіўшыся ізноў з немцамі, — яны усе заказы скіроўваюць у Бэрлін. Гэта зьяўляецца лепшай навукай дзеля нашых палітыкаў, якія гэтак лёгка паверылі абяцанкам маскоўскіх машэнікаў. Апроч таго, цяпер, калі Польшча перажывае цяжкі эканамічны крызіс і мае шмат безработных, бальшавікі концэнтруюць сваё войска на польскай граніцы і гатуюцца да рэвалюцыі ў Польшчы і бальтыцкіх дзяржавах. Але добра яшчэ, што ў саміх бальшавікоў ня ўсё ў парадку. Нядаўна ў Маскве адбыўся XIV конгрэс комуністычнай партыі, на якім выкрыўся вялікі разлад паміж крайнай лявіцай і больш умяркаванымі комуністамі. Зіноўеў, Бухарын і інш. выступілі проці Рыкава, Сталіна, Троцкага і інш. Пачалася барацьба паміж камісарамі. Гэтак бывае заўсёды перад канцом кожнай дыктатуры. Парыжская комуна загінула гэтак сама з прычыны ўнутранай барацьбы паміж галоўнымі дыктатарамі, якія зьніштажалі адзін аднаго.

Урэшце трэба адзначыць надзвычай цяжкі эканамічны крызіс, які цяпер перажывае Эўропа. У Англіі, Францыі, Нямеччыне, Польшчы і інш. дзяржавах эканамічны і фінансавы крызіс дасягнуў у канцы году найвялікшага напружэньня. Прычыны гэтага вядомы — адсутнасьць расейскага і азіацкага рынкаў. Гэткае палажэньне ня можа цягнуцца доўга і ўрэшце павінна прывясьці, як і ў 1914 годзе, да агульна эўропэйскага конфлікту, але на гэты раз ужо з бальшавікамі, якія зьяўляюцца галоўнай прычынай палітычнага і эканамічнага крызіса ўва ўсей Эўропе.

N.

---

*Ніколі не зьнішчажай газэты.*

*Прачытай і перадай суседу!*

---

ад бальшавізма. Зусім зразумела, што адно толькі падпісаньне лёкарнскіх трактатаў ня можа яшчэ мець вялікага значэньня. Рэальную вартасьць гэтыя трактаты атрымаюць толькі пасьля ўваходу Нямеччыны ў Лігу Народаў, але гэта ўжо зьяўляецца задачай новага году. Таксама задачай новага году зьяўляецца і сазыў міжнароднай конфэрэнцыі ў справе агульнага абязброеньня.

На гэтую конфэрэнцыю будуць запрошаны С.С.Р.Р. і Амэрыка. Пакуль што робіцца толькі падгатоўка да сазыву спэцыяльнай камісіі, якая павінна будзе апрацаваць праграму будучай конфэрэнцыі. Да працы ў гэтай камісіі запрошаны прадстаўнікі Нямеччыны і С С.Р.Р. і Амэрыкі Праблему агульнага абязброеньня, якая мае вялізнае значэньне для эканамічнага разьвіцьця дзяржаваў, разрашыць будзе яшчэ цяжэй чымсь пытаньне аб бясьпецы. Для некаторых дзяржаваў справа абязбраеньня зьяўляецца пытаньнем іх эканамічнага істнаваньня. Напрыклад Францыя і Польшча зусім зьнемагаюць ад вялізных ваенных выдаткаў. І усёж-ткі, яны ня могуць зьменшыць сваіх аружных сілаў, не наражаючы на небясьпеку сваіх граніц. Польшча магла б зьменшыць сваю армію толькі ў выпадку, калі-б абязброілася і Савецкая Расея. Але цяжка лічыць на тое, што апошняя на гэта згодзіцца. Савецкія камісары ўжо заявілі, што С.С.Р.Р. ня можа зьменшыць арміі, дзеля таго што апошняя патрэбна бальшавікам для ўнутранай бясьпекі — для падаўленьня пачаўшагася ізноў паўстанчага руху ў Туркестане, на Каўказе, Украіне і Беларусі Армія — гэта адзіная падстава бальшавіцкай улады, якая трымаецца толькі штыкамі. Але пытаньне яшчэ, ці змогуць абязброіцца і заходня-эўропэйскія дзяржавы, з прычыны апошніх падзеяў у калёніях.

Леташні год быў крытычным і для Заходняй Эўропы і для С С.Р.Р. Перш-на-перш трэба адзначыць вельмі цяжкае палажэньне заходня-эўрапэйскіх дзяржаваў у калёніях. За цэлы год Францыя ня здолела перамагчы паўст нцаў у Марокко і Сірыі. У Мароко ваенныя падзеі ўстрыманы толькі часова, з прычыны пачаўшагася там дажджлівага пэрыяда. Але на вясну трэба спадзявацца, што вайна пачнецца ізноў. Яшчэ горшае палажэньне ў Сірыі. У апошні час паўстанцы перамагаюць французаў. Паўстаньне друзаў пагражае па-

---

УЛАДЫСЛАЎ РЭЙМОНТ.

# НА ПАСЕЦЫ.

*(ПРАЦЯГ).*

— Ну, яшчэ па аднэй чарачцы, па апошняй! Сабака, маеш і ты кілбасы, закусывай і ты, калі твой гаспадар пасьля дваццацёх гадоў прымушаны ісьці ў сьвет, за чыншавіка, закусывай, сіротанька!

Сабака завыла жаласьліва, быццам зразумеўшы, а Ягна залілася сьлязьмі, абапёрлася галавой аб печку і пачала галасіць

— Э... круці, ня круці, а трэба памёрці... — сказаў спакойна Рахвал, вытрахнуў попял, схаваў люльку за пазуху і выйшаў з хаты.

Пачалі хутка ўкладывацца, вынасілі ўсё, што мелі, перастулаючы парог пустой хаты з глыбокім сумам, ня гледзячы адзін на аднаго, нічого ня кажучы. Калі ўжо ўсё было гатова і Рахвал перавязаў воз вяроўкамі, каб нічога не звалілася, Ваўрук вывеў карову і зачапіў ёй вяроўку за рогі.

— Маеш, Марыся, вядзі!

Дзяўчына абкуталася хусткай і пайшла, цягнучы вяроўкай карову, якая ўпіралася і, адварачваючы свой вялікі лоб у бок хаты, рычэла, быццам прадчуваючы, што вядуць яе навалацугу.

— Ну, дык едзем! — клікнуў Рахвал.

— Зараз, зараз! — адказаў Ваўрук і апошні раз увайшоў у хату, а за ім шмыгнула й Ягна; сумна паглядалі, хадзілі па кутох, капаліся ў саломе, аглядалі сьцены, а выйсьці нейк ім не хацелася, несьвядома працягвалі хвіліну разставаньня з гэтымі сьценамі

— Ваўрук, едзем, бо ўжо зьмяркаецца! — клікнуў Рахвал праз вакно.

— Ягна, хадзі ўжо, хадзі. Усё роўна, Бог нас ня скрыўдзіць.

Вывяў жонку і зачыніў за сабой дзьверы.

— А ну, дык ува імя Айца і Сына і Духа Сьвятога едзем! — сказаў панура, хутчэй падпяразаўся, сьціснуў зубы і паехалі. Ягна вяла за вяроўку сьвіньню і амаль што ня рычэла, плачучы. Ваўрук ішоў на канцы, панура глядзеў на кучы дрэваў з абдзёртай карой, моў нагія трупы засьцілаўшыя пабоішча, на кучы зжоўклых ужо галінаў, на тысячы пнёў, якія моў падставы паваленых калёнаў тысячамі бялелі з абодвых бакоў дарогі, на глыбокія ямы, поўныя вады і сасновых голак, на сьцежкі, якія ішлі ў розныя напрамкі, заваленыя калодамі. Ен гэта ўсё добра знаў, ведаў, як ведаў кожную яму, кожнае таўсьцейшае дрэва, кожную лясную дарожку. Ужо дваццаць гадоў быў лясьнікам у гэтым лесе. Тутка, быўшы малым хлопчыкам, пасьвіў жывёлу, толькі тутака жыў, неяк зросься з гэтымі дрэвамі, несьвядома адчуваў нейкае сваяцтва з гэтымі вяліканамі, якія цяпер ляжэлі мёртвыя, без вярхоў, без галінаў, без жыцьця. Не перамаглі лесу буры, не перамаглі яго пяруны, якія няраз ў няго ўдаралі, не перамаглі маразы ад якіх дрэвы трэскаліся Але прыйшла сякера — і лес паў трупам. Што ён меў тут рабіць? У жыдоў за парабка служыць і пільнаваць кучы калодаў не хацеў, лепш ужо ісьці ў сьвет шукаць службы' чымсь глядзець на гэта. Абнімаў гарачым паглядам увесь абшар пасекі, па якой валачыліся грамады людзей з піламі і сякерамі ехалі вазы з наваленымі на іх калодамі і далятаў нявыразны гінуўшы ў далі і імгле гоман галасоў, грукат калёсаў, гук сякераў ды іржаньня коняў.

Плёўся памалу па балоце час-ад-часу падпіраючы воз плячыма, часам нагой адпіхаў сабаку, які надта блізка падыходзіў да возу, і ішоў усё больш пахмурны У грудзёх гэтак пякло, быццам захляснуўся сьпіртам. Гэты трэск сечаных калодаў, які далятаў да яго, удараў у яго і адсякаў яму па куску сэрца. Зацяўшы мацней зубы, бо яму хацелася кінуцца на зямлю і крычэць з усіх сіл з гэтай бязмежнай жаласьці, якая пранікала яго наскрозь, — і йшоў далей. Дождж нападаў усё гусьцей і рабілася ўсё больш сьцюдзена. Невялічкія апошнія бярозкі застаўшыяся яшчэ над ямамі, кідалі жоўтае, апошняе лісьцё, якое ляцела

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

— 28-га сьнежня адбылася паседжаньне Сойму, на якім быў аканчальна прыняты закон аб зямельнай рэформе. На гэтым жа паседжаньні прыняты законы: аб дазволе плаціць падаткі натураю, г. зн. гаспадарчымі прадуктамі і аб праве Рады Міністраў павялічваць кары за няўзнос падаткаў.

— Паўнамоцны прадстаўнік Міністэрства Скарбу п. Млынарскі падпісаў умову аб пазычцы Польшчы 100 мільёнаў даляраў.

— У зьвязку з правядзеньнем ашчаднасьці, ліквідуюцца некаторыя ваенныя акругі.

— З прычыны узросту безрабоцьця, вядуцца асобныя нарады аб спосабах яго зьліквідаваньня і аб дапамозе безработным. У зьвязку з гэтым, прэмьер Скшынскі сам аб'ехаў прамысловыя акругі.

— Вядуцца перагаворы аб гандлёвых умовах з Нямеччынай, Нарвэгіяй, Латвіяй, Чэхаславацыяй, Аўстрыяй і Італіяй.

## За граніцай.

**Кітай.** Палажэньне ў Кітаі за апошні тыдзень рэзка зьмянілася. Рэвалюцыйная армія, якую падтрымлівалі бальшавікі, разьбіта. Разам з гэтым узмацнілася пазыцыя Японіі, бо ўсе пераможцы на яе старане Павялічаньне ўплываў Японіі ў Кітаі напалохала Амэрыку, якая пастанавіла ўмяшацца ў барацьбу і таксама паслала ў Кітай свае войска. Адначасна з гэтым пастанавілі ўмяшацца ў кітайскія падзеі і Эўропэйскія дзяржавы — Англія і Францыя. Гэткім чынам на Ўсходзе зьбіраюцца грозныя хмары, якія магуць выклікаць новую сусьветную вайну.

**Францыя** У зьвязку з цяжкім фінансавым палажэньнем, апроч павялічаньня падаткаў наагул, урад мае замер аддаць у арэнду некаторыя дзяржаўныя манаполі, паміж іншым тытунёвую. Па апошнім весткам, адно амэрыканскае Т-ва прапануе за гэты манаполь 600 000 000 даляраў.

З прычыны нязгоды міністраў у справе фінансавай палітыкі, насьпявае новы міністэрскі крызіс.

**Гішпанія.** Фашыстаўска-гэнаральскі ўрад Прыма-да-Рывэры зьмяніў звычайны цывільны ўрад. Аднак на чале гэтага новага ўраду застаўся ізноў гэн. Прыма-да-Рывэра. Прадбачыцца замірэньне з Абдэль-Крымам, коштам значных уступак на карысьць рыфэнаў.

**Латвія.** Міністэрскі крызіс, які цягнуўся амаль ня цэлы месяц, нарэшце закончыўся. Ульманіс, якому даручана было ўтварэньне новага кабінэту, атрымаў большасьць у Сойме. У склад кабінэту ўвайшлі ў большасьці прадстаўнікі правых партыяў.

**Турцыя.** Па апошнім весткам Турцыя зрабіла з С.С.Р.Р. умову аб узаемнай ваеннай дапамозе. Гэтая умова лічыцца, як „лёкарнскі“ трактат Усходу. Згодна з гэтай умовай, Турцыя, ў выпадку вайны з Англіяй, атрымае ваенную дапамогу ад С.С.Р.Р.

**Мароко.** Па апошнім весткам французы перамагаюць. Здалася адно з найбольш варожых да французаў племяньняў, у ліку 2.300 семьяў. Дзякуючы гэтаму французы захапілі вельмі важныя пазыцыі і пасуваюцца далей.

# Агляд прэсы.

Газэта „Słowo“ у № 296 разглядаючы справу царкоўных казаньняў у праваслаўнай царкве на крэсах, прызнае слушнасьць дамаганьняў беларускага насяленьня, каб гэтыя казаньні гаварыліся ў яго роднай беларускай мове і між іншым піша:

„Ня можа быць ніякага сумліву у тым, што калі чужаземнае праваслаўнае насяленьне на Усходніх Крэсах ня можа маліцца і слухаць казаньні па польскі, дык лепш будзе калі гэтае насяленьне будзе спаўняць свае рэлігійныя абавязкі ў матчынай мове, чымсь у расейскай“.

Зазначаючы, што праваслаўны Сынод спэцыяльна дзеля гэтага выдае беларускія і украінскія духоўныя часапісі, „Słowo“ далей кажа:

„Каб палягчыць работу зрусыфікаванаму „ці расейскаму праваслаўнаму духавенству, да гэтых часапісяў („Праваслаўны Беларус“ і „Духоўная Бяседа“) далучаюцца ўжо гатовыя казаньні ў беларускай і ўкраінскай мовах. Аднак да нас даходзяць весткі аб тым, што духоўныя расейцы (або зрусыфікаваныя) ігнаруюць загад Сыноду і далей русыфікуюць крэсавае насяленьне... Дык была-б вельмі пажадана, каб улада, а перадусім Міністэрства Справаў Рэлігійных, пры дапамозе Варшаўскага Сыноду, зрабіла энэргічны ўплыў на праваслаўнае духавенства на Усходніх Крэсах бо інакш, трэба гэта рашуча сказаць, ня варта дарэмна марнаваць грошаў на выданьня, якіх ніхто ня чытае, не дзеля таго каб яны былі непатрэбны, ці дрэнна выданы, а выключна дзякуючы сабатажу праваслаўнага духавенства“.

Нядаўна на шпальтах беларускай прэсы было закранута вельмі балючае і скамплікаванае пытаньне аб беларуска-жыдоўскіх адносінах. Цяпеража, у зьвязку з працэсам Штэйгэра, пытаньне аб адносінах да жыдоў закранута і на старонках украінскіх газэт.

Газэта „Дзвін“, абгаварываючы справу Штэйгэра, гэтак гаворыць аб прамовах сэнатара Рынгеля, скіраваных проці украінцаў:

„...Калі сэнатар Рынгель у сваіх прамовах на працэсе Штэйгэра *гэраічны украінскі нацыянальны рух называе звычайным бандытызмам*, а палітычныя украінскія арганізацыі — бандамі, жыдоўская прэса, калі і ня сустракае гэтую прамову гучнымі воклясками, дык усёж-такі маўчаліва радуецца гэткім способам абароны свайго прадстаўніка“.

І далей:

Мы з націскам падкрэсьліваем, што гэткія выпады жыдоўскага сэнатара Рынгеля па адрасу ўкраінцаў і ўкраінскіх палітычных арганізацыяў — зьяўляюцца зьнявагаю ўкраінскага народу, гэта ёсьць правакацыя, якую будзе добра памятаць ўкраінскі народ...“

Зусім згаджаемся з паглядам „Дзьвіна“ на агіднае выступленьне жыдоўскага сэнатара Рынгеля.

# У С.С.Р.Р.

### Мудры камісар і несьвядомыя козы.

Пад гэткім загалоўкам маскоўская „Праўда“ у № 278 зьмяшчае корэспандэнцыю, якая выглядае зусім як жарт. Аднак гэта „голас з мейсца“. Вось яе зьмест: у мястэчку Ярмолінцах, Праскураўскай вакругі, мяйсцовае „начальства“ надумалася зрабіць парк для гуляньня. Найшлі мейсца: побач з рынкам. Аднак — ня аказалася грошаў на агарожу. І пакуль хто з людзей, — па гэтаму „парку“ швэндаліся сабе мястэчковыя козы. Камісар абдумваў як-бы налажыць асобны на агарожу „парку“ падатак. Але ніяк гэта ня выходзіла, бо грамадзяне не згаджаліся, кажучы, што ім гэты „парк“ зусім непатрэбны. І вось, неяк раздумваючы аб тым, як-бы сябе „ўславіць“ адчыненьнем „парку“, а жыхароў — пацешыць пекным мейсцам для гуляньняў, камісар убачыў, што на пляцы, які быў вызначаны на „парк“ — ходзіць некалькі козаў. Яго „асяніла“. — Выхад знайшоўся. На другі дзень быў выданы загад аб аштрафаваньні... за самавольнае карыстаньне з публічнага мейсца — усіх мястэчковых козаў па 8 руб. Аднак камісар „наказы платнічыя“ скіраваў не да козаў, а да іх уласьнікаў, адзначаючы на „наказах“, *што за несьвядомых козаў павінны плаціць сьвядомыя іх гаспадары*“... Аднак тыя ня згадзіліся з гэтай пастановай і штрафа не заплацілі. За невыкананьне загаду уладаў іх пацягнулі ў суд, у якім пазваныя даказвалі (зусім сурьёзна!) *што яны не павінны плаціць за сваіх козаў, бо няма „кругавой парукі“ паміж імі гаспадарамі і іхняй жывёлай*

Пасьля доўгага разгляду справы і належнай матывіроўкі, народны судзьдзя пастанавіў штраф зацьвердзіць. Гэткім чынам — і грошы на агарожу былі здабыты і... козы засталіся цэлымі. А хаця і „сьвядомыя“, але не разумеючыя сваіх прыемнасьцяў, аб якіх клапаціцца „начальства“, жыхары былі „ашчасьліўлены“ новым „культурным здабыткам“ — паркам..

Ці ж ня цікавыя спосабы „ашчасьліўленьня“, а таксама і ўся гэтая пісаніна і судавы прыгавор, дзе судзьдзя разглядае пытаньне ці ёсьць, ці не — „кругавая парука“ паміж жывёлай і яе гаспадарамі?

### Як яны будавалі млын.

У Нефёдаўскім раёне (Маскоўшчына) сяляне сабралі ў складку грошы на будову млына. Ведама, ў Расеі нічога ня можна зрабіць самому і так адразу. Патрэбны дазволы, вызначэньне „адказных работнікаў“ з комуністаў дзеля кіраваньня работамі і г. д. І вось будову млына „начальства“ даручыла даверанным комуністам нейкім таварышам Лапіну і Стаўрову. Сабраныя на будову грошы вядома яны ўзялі. І вось — сяляне чакаюць калі расначнецца работа, а „кіраўнікі“ недзе запрапалі ў горадзе. Доўга гэтак чакалі сяляне. Але нарэшце пачалі слаць хадакоў. Аказалася, што таварышы ўсе грошы праматалі... Так сяляне і ня ўбачылі ані млына ані сваіх грошаў. Найі

# Ідэал крэсоўца.

Жадаючы быць ў згодзе з векам
Я аб „вышэйшым“ лятуцеў.
І мог быць слаўным чалавекам,
Ды не дапяў чаго хацеў.

Ня гнаўся я за капіталам,
Бо скарбаў для душы шукаў.
Жадаў быць верным ідэалам.
І... хвігу ў нос я атрымаў...

Крычаў я гучна аб свабодзе,
Ўрад чародны лаяць сьмеў;
Аб бедным сумаваў народзе,
І.. на Лукішках пасядзеў...

Свабоду, равенства і брацтва
Не перастаў датуль лічыць
Законным ўсіх людзей багацтвам
Пакуль ня стаў на Крэсах жыць..

Ад мысьляў сумных каб пазбыцца
А разам і ад бруду места,
Пайшоў я неяк раз памыцца
У лазьню ў Вільні, да Агрэста.

І што ж? Ура! сярод народу
Туды памыцца што прыйшоў,
Я брацтва, равенства, свабоду, —
Свой ідэал — вось дзе знайшоў!

**Б. Друцкі.**

---

з ветрам і быццам сьлёзы падала на балотную дарогу, на пні, на галіны, на нізкарослыя кусты гарэшніка, на малыя сасонкі, якія дрыжэлі ад сьцюжы і сумна шумелі. На сухіх, нагіх дрэвах трапетала крыльлямі цэлае стада воранаў і каркала жаласьлівую песьню аб тым, што ўжо няма дзе віць гнёздаў, што ўжо няма дзе знайсьці прыпынку.

Рыжыя, патаптаныя травы і папараці валяліся ў балоце, моў руччы крыві, вылітай з лесу. Стада кароў шчыпала на палянцы траву і час-ад-часу глуха рычэла, а колькі хлапцоў сядзела пры вагнішчы, якое залівалася дажджом; вырываўся з яго брудны чорны дым і разліваўся парванымі паласамі.

Сум, бязмежная мэлянхолія, поўная стогнаў паміраўшых дрэваў, напаўняла сьвет і ўлівалася ў душу Ваўрука ўсё глыбейшай жальбай і гэткай злосьцю, што гатовы быў грызьці каменьне, аб якоя спатыкаўся. Сьціскаў кулакі, скрыгатаў зубамі, заплюшчываў вочы, каб нічога ня бачыць і йшоў усё хутчэй.

— Круці, не вярці, трэба памерці! — казаў цьвёрда і са злосьцю брыкаў нагой то пні, то галіны, то пападаўшыяся мухаморы, росшыя над прыдарожнымі ямамі.

Пад вялікім, росшым на беразі лесу, дубам, які адзін застаўся, бо на ім быў абразок Маці Божай, Ваўрук сеў, каб крыху супачыць. Дуб меў ужо колькісот гадоў, быў сукасты, падзёрты пяррунамі, унутры пусты, дзіўна працягваў да неба галіны поўныя сукоў, моў вялзныя рукі, і шумеў сухімі лісьцямі. Гэта быў пункт, да якога Ваўрук у часы сваей службы дахадзіў, бо далей пачыналася ворнае поле, і адтуль варочаўся назад, а цяпер... цяпер пераступаў гэты сьвяты парог лесу і больш ужо ня вернецца — ідзе на валацугу.

— А каб вас!.. а каб вас!. — і гэткі страшэнны боль скручваў яго ўнутраннасьці, што ажно хапаўся за бруха і енчыў.

— Ваўрук! дык-жа хадзі хутчэй, Рахвал ня будзе чакаць, і ўжо ноч надыходзіць.

— Пашла вон ты, сабака, бо габью—замарматаў злы.

— Але! напіўся сьвіньня гарэліцы і будзе тут на дарозе скандаліць!

— Кажу табе, баба, ідзі, бо пашкадуеш!

— А няўжож! пакіну цябе тут, а сама буду цягаць рэчы ў хату.

— Ну, хадзі, Ваўрук, — сказала мягчэй, пахіляючыся над ім сваім чырвоным залітым сьлязьмі тварам, і пачала цягнуць яго за рукаў.

— Кажу табе, сьцерва, ідзі, дык ідзі, бо задам!

Ягна пацягнула яго мацней. Вайрук ускочыў з зямлі, ударыў яе нейкай галінай па галаве, кінуў аб зямлю, брыкнуў яе колькі разоў, схапіў вяроўку, якой была прывязана сьвіньня, вырваўшаяся ў гэты час Ягне з рук, і пайшоў вялізнымі крокамі наперад. Ваўручыха галосячы паднялася і пайшла за ім. Хутка прапалі ў імгле і наступаўшым зьмерку. Толькі вароны вялізным стадам кружыліся над дубам і жаласьліва крычэлі, а на дарозе з пасекі паказаліся каровы і нейкі крыклівы голас пеяў.

Жывёла прайшла і прапала ў імгле і зьмерку, здалёк пяяньне было чутно ўсё цішэй.

Апошнія зыкі прапалі ў прасторы і сплылі з дажджовай плюхотай. Раптам пацемнела, сьвет заліў шэры, мокры фон лістападнай ночы, усё зьлілася ў вадну брудную пацямнеўшую масу. Стары дуб толькі сонна шумеў, кідаў лісьцё на поле і ад пасекі, ад сухіх дрэваў, ад бярозак, плыў нейкі глыбокі енк, нейкае пяяньне роспачы гудзела панурымі рытмамі: Лес памёр! памёр! памёр!

*Пералажыў Ю. М.*

*(Канец).*

